


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

15 красавіка 2005 года
№ 15 (517)
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года.
Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

Тэлетыдзень 21 канал

## навіны рэгіёну

### На сваю сыравіну

**МЯДЗЕЛ.** Свае плантацыі сыравіны для сокаў і віна збіраюцца закласці гэтай вясной ва УП "Ілаўскае". Мяркуюць пасадзіць 15 гектараў яблынь і 5 – чорнай парэчкі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Лепшая сям'я

**АШМЯНЫ.** Сям'я настаўнікаў Рамановічаў з вёскі Анкуды стала лепшай у раённым конкурсе шматдзетных сем'яў, што прайшоў у Доме культуры 9 красавіка. На абласны конкурс у Гродна Рамановічы паедуць 19 красавіка.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ.**

### Грошы на рамонт

**ВІЛЕЙКА.** На рамонт гарадскіх дарог у гэтым годзе з абласнога бюджэту выдаткавана 1 мільярд 25 мільёнаў рублёў. Плануецца пакласці асфальтабетоннае пакрыццё на самых ажыўленых вуліцах горада. Рамантаваць дарогі будуць "Даррамбуд-62" і Вілейская жыллёва-камунальная гаспадарка.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ.**

### "Маладзічок–2005"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Першы адкрыты конкурс юных выканаўцаў эстраднай песні "Маладзічок–2005" адбудзецца 14-16 красавіка ў Палацы культуры. Удзельнічаюць не толькі беларусы, але і госці з Расіі.

**Святлана ЦІШКО.**

### Даюць бясплатна

**АСТРАВЕЦ.** Супрацоўнікі раённай дзяржаўтаінспекцыі бясплатна раздаюць веласіпедыстам і кіроўцам гужавога транспарту святлоадбівальнікі і наклейкі, якія дапамагаюць вадзіцелям бачыць іх на дарогах у цёмны час сутак. Акцыя будзе доўжыцца ўвесь красавік.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ.**

### Будзе майстар-клас

**СМАРГОНЬ.** Выстава акварэляў **Сяргея Пыжыкава** праходзіць у бібліятэцы №1. У пятніцу, 15 красавіка, мастак прыедзе ў Смаргонь і правядзе майстар-клас для ахвотных.

**Святлана ЦІШКО.**

### Дыпламантка

**ВАЛОЖЫН.** Выхаванка дзіцячага садка №5 **Даша Бразоўская** прывезла дадому дыплом Пятага рэспубліканскага конкурсу "Топ-Топ". Ён праходзіў 12 красавіка ў Баранавічах і сабраў 30 таленавітых дзяцей з розных куткоў нашай краіны. Прадстаўнікі Валожыншчыны ўдзельнічалі ў ім упершыню.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

# Самая прыгожая – Любоў!

**МАЛАДЗЕЧНА. Міс Маладзечна 2005 у мінулую суботу стала Люба Ферафонтава. Сваю перамогу яна прысвяціла маме. Менавіта мама прапанавала Любе ўдзельнічаць у конкурсе. Як аказалася, нездарма.**




Міс Маладзечна 2005 у мінулую суботу стала Люба Ферафонтава, дзевяцікласніца СШ №8.

Фота Анатоля ЗАНКАВІЧА.

Люба Ферафонтава – дзевяцікласніца СШ №8. Любіць спорт і музыку. Займаецца баскетболам. У час конкурсу яе падтрымлівалі мама, брат, дзядуля і верныя сябры. За паўгадзіны да пачатку фіналу Люба ў эксклюзіўным інтэрв'ю "РГ" прызналася, што калі пераможа, то абавязкова стане топ-мадэллю.

Акрамя галоўнай прыгажуні была абрана Віцэ-міс – навучэнка гімназіі-каледжа **Юля Бычкова**. **Саша Буслаўская**, дзесяцікласніца СШ №14, стала Міс Чароўнасць. А гледачы выбралі сваю прыгажуню. Навучэнка музвучылішча **Таня Якубеня** перамагла сярод іншых дзяўчат і стала Міс Глядацкіх сімпатый.

Гэтыя дзяўчаты атрымалі галоўныя прызы – турыстычныя пуцёўкі ў Польшчу і Чэхію. Астатнія дзяўчаты атрымалі дыпломы і сучасныя падарункі.

Усяго ў фінале "Міс Маладзечна 2005", што прайшоў у Палацы культуры, удзельнічала дзесяць дзяўчат. Яны прайшлі конкурсны адбор з 25 ахвотных. Дзесяць фіналістак – гэта навучэнкі гарадскіх школ, гімназій, каледжаў і вучылішч.

Фінал пачаўся з дэманстрацыі вячэрніх сукенак. Пасля яго дзяўчаты расказалі аб сабе. Пытанні былі розныя, і ніхто з прыгажунь не ведаў, якое каму дастанецца. Гледачы ўбачылі паказ купальнікаў, маладзёжных і нацыянальных касцюмаў. На фінальны этап дзяўчаты выходзілі ў вясельных сукенках.

Арганізатары конкурсу дапамаглі дзяўчатам з вячэрнімі і вясельнымі ўборамі. Астатнія касцюмы фіналісткі рыхтавалі самі. Нехта з дзяўчат паклаўся на свой густ, хтосьці даверыў працу над адзеннем дызайнеру ці родным. Прычоскі былі розныя, і рабілі іх дзяўчаты як дома, так і ў салонах.

Журы складалася з сямі чалавек. "Мы спецыяльна не сталі знаёміць дзяўчат з журы да фіналу, каб пазбегнуць абвінавачванняў у несумленнасці, – адзначыла рэжысёр конкурсу **Алена Сакалоўская**. – Пяцёра членаў журы прыехала з сталіцы толькі перад самым пачаткам".

"Такога сумленнага і выдатнага конкурсу прыгажосці я яшчэ не бачыла" – адзначыла вядучая БТ **Святлана Бароўская**. "А я не бачыў такога адзінадушнага журы – мы амаль не спрачаліся", – дадаў выканаўнік абавязкаў старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Яфім Іцэльчык**. Ён быў старшынёй журы.

Карону, што ўпрыгожыла Міс Маладзечна 2005 Любу Ферафонтаву, арганізатары заказвалі ў Барысаве. Упрыгожванне абышлося ў 55 тысяч рублёў.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ.**


### "Дарога да Дому"



"Дарога да Дому..." – пад такой назвай у Глыбокім адкрылася персанальная выстава мастака з Вілейкі Эдуарда Мацюшонка.

2-я старонка

### Сняцца мне Андрэйкі



Зінаіда Душкевіч з Маладзечна заўсёды ўспамінае сваю вёску Андрэйкі на Мядзельшчыне і бярозкі, якія раслі каля хаты дзеда.

6-я старонка

### Суперконкурс



"Рэгіянальная газета" працягвае конкурс, стаўшы ўдзельнікам якога вы можаце выйграць прыз – пыласос "LG".

20-я старонка

■ ВЫСТАВЫ

# “Дарога да Дому...”

**“Дарога да Дому...” – пад такой назвай у канцы сакавіка ў Глыбокім адкрылася персанальная выстава мастака з Вілейкі Эдуарда Мацюшонка. Настаўнік сусветнай мастацкай культуры з гімназіі “Логас” свае работы на радзіме паказвае ўпершыню.**

У выставачнай зале гарадскога Цэнтра культуры ў дзень адкрыцця было надзвычай шматлюдна. Прыехала вялікая грамада з Вілейкі, музейныя работнікі, калегі і аднадумцы, сваякі і знаёмыя з роднай вёскі Мнюта, прыйшлі глыбачане, аматары мастацтва.

Выстава “Дарога да Дому...” – споведзь мастака перад сваімі землякамі. Бо дом у яго ўяўленні — гэта не толькі жытло, гэта месца, дзе ты нарадзіўся, дзе зрабіў першыя крокі, дзе першы раз убачыў свайго дзеда, бабулю, бацькоў, дзе твае карані.

**Даведка “РГ”. Эдуард Мацюшонак нарадзіўся 7 сакавіка 1958 года ў вёсцы Мнюта Другая Глыбоцкага раёна. У 1973 годзе скончыў 8-гадовую школу. Ад 1973 года па 1977 вучыўся ў Віцебскім станкаінструментальным тэхнікуме. Затым – служба ў войску. З 1979 па 1984 гады вучыўся на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута. З 1984 года жыве і працуе ў Вілейцы, кіраўнік студыі выяўленчага мастацтва “Вясёлка”.**

Цэнтральнае месца на выставе займае карціна “Хлеб”, колішняя дыпломная работа, якая прысвечаная дзеду Вінцэнту, з якога, па словах Эдуарда, “пайшла мая палавінка па бацькоўскай лініі”.

“Хлеб, – сказаў мастак, – гэта не толькі тое, што можна купіць у краме. Хлеб – гэта тое, што мы пачынаем збіраць і ствараць, не толькі фізічна, але і духоўна, ад першага да апошняга дня жыцця.

Ля дрэва сядзіць мой дзед. Ён страціў у першую сусветную вайну ногі, але трэба было жыць. І ён змог пераадолець усе цяжкасці. Працаваў, сеяў, араў. Даў магчымасць з'явіцца на свет майму бацьку, а ён ужо даў жыццё мне...”

У маладосці дзед Вінцэнт часта ездзіў у Глыбокае на кірмаш. Ён і распавядаў ўнуку, як выглядаў горад на пачатку мінулага стагоддзя. На прыкасцельным пляцы была слаўтая і адметная на ўсё наваколле аўстэрыя (карчма). Дзед заходзіў туды нават з невялікімі грашыма, якія былі ў яго кішэні.

– Пасля я часта прыязджаў у Глыбокае, – кажа Эдуард, – і з задавальненнем глядзеў, які гэта цудоўны горад! Упэўнены, што самае прыгожае на Беларусі барока ў Глыбокім. Такой вытанчанасці няма больш нідзе.

Захацелася аднавіць, што было ў часы майго дзеда. І вось дзякуючы кнізе Уладзіміра Скрабатуна “Глыбокае на старых паштоўках” адкрываю для сябе сабор, які пераходзіў ад адной канфесіі да другой. Я з такім задавальненнем працаваў амаль цэлы год!

Хацеў стварыць палатно, якое было, як быццам, недзе згублена. Потым знайшлі і так доўга расчышчалі тынкоўку, пазбаўляючыся ад усіх напластаванняў, часам не вельмі разумных, аднаўляючы тое Глыбокае, якое некалі было. Я думаю, што па гэтым бруку хадзілі ногі майго дзеда, наведваючы аўстэрыю. Па гэтым бруку хадзіла шмат слынных і велічных людзей Глыбокага: Тадэвуш Даленга-Мастовіч, Лявонцій Ракоўскі, Эліэзэр Бэн-Іегуда, Паўліна Мядзёлка, Язэп Драздовіч...

Я зразумеў, што павінны стварыць працу, гістарычную рэканструкцыю – мосцік, які злучае мінулае і сучаснасць. Калі раней прыязджаў у Глыбокае, то казаў свайму сыну і сваёй дачушцы: вось тут раней былое тое, там іншае. А ў мяне пыталі: “А дзе яно было? Яго ж няма!” Цяпер тое Глыбокае могуць убачыць не толькі мае дзеці.... На палатне “Нядзеля. Глыбокае” тое, што некалі бачыў мой дзед і мой тата...



**“Дарога да Дому...” – пад такой назвай у канцы сакавіка ў Глыбокім адкрылася персанальная выстава мастака з Вілейкі Эдуарда Мацюшонка. Настаўнік сусветнай мастацкай культуры з гімназіі “Логас” свае работы на радзіме паказвае ўпершыню.**

Фота Уладзіміра СКРАБАТУНА.

Прыцягвае ўвагу карціна “Вяртанне Язэпа Драздовіча”, якая пераклікаецца з матывамі драздовічавых маляваных дываноў, якія калісь на Глыбоччыне былі ледзьве не ў кожнай вясковай хаце. Партрэт Язэпа Драздовіча напісаны на фоне месячнай ночы з сілуэтам задарожскага касцёла Маці Божай Ласкавай, які стаіць у колькіх кроках ад бацькоўскай хаты мастака ў роднай вёсцы Мнюта.

Рамантызмам вее ад карціны “Гукі паланэза”. Усім вядома гэта слаўтая мелодыя “Развітанне з радзімай”, якую ў выгнанні напісаў Міхал Агінскі. Цудоўны барочны палац у Ганунце на Вілейшчыне, які з'яўляецца галоўным сюжэтам твора, належаў некалі роду Агінскіх. Палац, на жаль, не захаваўся. Тут якраз назва мелодыі – “Развітанне з радзімай” – у адносінах да лёсу палаца сімвалічная, як ніколі.

Прадстаўляючы свае работы, якія былі размешчаны па перыметру выставачнай залы, напрыканцы Эдуард Мацюшонак зноў стаяў ля карціны “Хлеб”. Леваруч ад яе – карціна “У Вілейку”.

Правільным было завяршыць прэзентацыю сваіх работ творамі, якія прысвечаны гораду, дзе ты цяпер жывеш. Гістарычным фонам для карціны стаў адзін са старадаўніх фотаздымкаў Вілейкі стагоддавай даўніны. Аўтар стварыў свой мастацкі вобраз, калі ў аднячассе тут, раптам, на шматлюднай вілейскай вуліцы маглі сустрэцца слынныя некалі віляйчане: навукоўцы, пісьменнікі, паэты...

Яны нібыта трапляюць у кадр вілейскага фатографа-яўрэя, які побач са сваім домам, паставіўшы штатыў з фотаапаратам на брукаванай вуліцы, робіць гэты здымак. А ты – міжвольны глядач, якога машына часу нібыта занесла ў тую, ужо далёкую ад нас эпоху.

**Уладзімір СКРАБАТУН, газета “Вольнае Глыбокае”, спецыяльна для “Рэгіянальнай газеты”.**



■ КОНКУРС

# Пішыце вершы і дасылайце

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтральная гарадская бібліятэка імя Максіма Багдановіча і царква Ражства Хрыстова ладзяць паэтычны конкурс “Вялікдзень – светлае Хрыстова Уваскрэсенне”.**

Удзельнічаць могуць усе ахвотныя, незалежна ад узросту, прычым гэта могуць быць не толькі маладзечанцы, але і смаргонцы, валожынцы, мядзельцы і жыхары іншых гарадоў рэгіёну.

Вершы могуць быць напісаныя як па-беларуску, так і па-руску. Свае творы аўтары павінны да 29 красавіка прадставіць у чытальную залу цэнтральнай бібліятэкі (вуліца Талстога, 4), пазначыўшы сваё прозвішча, імя, імя па бацьку, месца працы (вучобы), хатні адрас і тэлефон.

Вынікі будуць падведзеныя 5 мая на чарговых духоўных чытаннях “Біблія і мы”.

Пераможцаў чакаюць прызы. Лепшыя творы арганізатары мяркуюць апублікаваць у газеце “Воскресение”. Тэлефон для даведак 7-00-40.

**Аддзел інфармацыі “РГ”.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## У санаторый...

З панядзелка калега пайшоў у адпачынак. Тры дні гляджу на яго пусты стол і па-добраму зайздрошчу. Ні табе рэдакцыйных планёрак, ні камандзіровак, ні тэрмінаў здачы матэрыялаў.

Пад уражаннем вечарам тэлефаную знаёмай. “Здароў, – кажу, – як справы?” “Якія там справы, – удыхае тая. – Ледзь жывая, усё баліць”. “У адпачынак табе трэба, – шкадую жанчыну, – а яшчэ лепш у які санаторый”. “Ыгы, – цяжка ўздыхаюць на другім канцы проваду, – на наступныя выхадныя будзе мне санаторый. Гной у вёску паеду з дзецьмі вазіць”.

Прывязвае людзей вёска. Ой, як прывязвае. Ледзь снег сыдзе, у прыгарадныя цягнікі не ўціснуцца. Кожны стараецца ў выхадныя “злятаць” да сваіх, дапамагчы на гаспадарцы.

“Не магу больш, – скардзіцца адна жанчына другой, – сама хутка на пенсію пайду, а свету боскага за гэтай работай ніколі не бачыла. Як толькі выхадныя – на два дні ў вёску, як адпачынак – на ўсе 24. Калегі паспелі аб'ездзіць за гэты час і Крым, і Рым, а ў мяне адна дарога. Яны зайздросцяць майму кавалку мяса, а я ім. Футра натуральныя, машыны шыкоўныя, камбайны на кухні стаяць. А я як цёрла бульбу на тарцы, так і тру, як ездзіла гэтым цягніком змоладу, так і да старасці ездзіць буду”.

Не вытрымала, расказала пра пачутае на рабоце. “А я, думаеш, дзе-небудзь была? – абуралася калега. – Фіг! Хаця і грошы мела. Як жа можна было паехаць у адпачынак, калі маці кожны год заводзіла адну і тую ж песню: “Хворая, ледзь хаджу, не сёння, дык заўтра памру. Шукай тады цябе няведама дзе. Лепш у вёску прыедзь, дапамажы што зрабіць, тут і адпачнеш”. Дзеці выраслі, хутка ўнукі будуць. Маці, слава Богу, жывая і гэтак жа, як і раней, не адпускае яе нікуды ад сваёй спадчыны. Так і сядзіць кожны адпачынак дома, злуючыся на сваю нешчаснасць.

Разважаючы на тэму адпачынку, ўспомнілася яшчэ адна гісторыя. У жанчыны быў вельмі раўнівы муж. Ні на крок не адпускаў яе ад сябе. Усё здавалася, здрадзіць, пакіне яго аднаго.

“Пакіну, – узарвалася неяк яна, – пяць гадоў не магу з'ездзіць у санаторый падлячыць страўнік, загнуся, дык глядзі, хаця не плач, з труны ўстану й задушу”. Праз тыдзень ён сам ёй прынёс пуцёўку і білет на цягнік. Едзь, маўляў, лячыся. Сумку на колцах купіў, каб цяжкае не насіла, да вакзала правёў. А праз чатыры дні суседкі ўбачылі яе ў магазіне.

“Дзеўкі, – абуралася жанчына, – такога дурня вы яшчэ не бачылі. Прыехаў з суседам, выдумаў, што памерла мая маці, і забраў назад. Усю дарогу галасіла. Толькі дома сказаў, што падмануў”. “Уваліла?” – пытаюцца дзеўкі. “Халера яго з тым санаторыем, – смяецца жанчына, – добра што хоць мамка жывая”.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

# Прыходзьце за пакупкамі ў "Бытавую тэхніку"!

**У магазіне "Бытавая тэхніка" ІП Уладзіміра Сідарава, што знаходзіцца ў гандлёвым цэнтры "Модуль", можна набыць поўны спектр бытавой тэхнікі.**

Канешне, можна абысціся без пральнай машыны, без халадзільніка, пыласоса, пліты. Можна мыць бялізну ў ванне ці здаваць у пральню, прадуктаў закупляць як мага менш, балазе ў магазінах цяпер на іх няма дэфіцыту, выбіваць пыл на вуліцы, а яду гатаваць на газоўцы. Усё гэта можна. Але навошта? Ці трэба быт пакідаць на ўзроўні мінулага стагоддзя?

Мыццё бялізны ніколі не лічылася прывабным заняткам. На яго трацяцца гадзіны, з якіх складваюцца дні, месяцы і ў канчатковым выніку, гады. Дык чаму ж не перакласці такую работу на машыну? Вам жа ёсць чым і кім заняцца. Сябрамі, блізкімі, дзецьмі. Сабой. Можна нарэшце проста пагультайнічаць: медыкі ж сцвярджаюць, што для знясця стрэсу гэта карысна.



Бытавыя пральныя машыны-аўтаматы робяць мыццё (мыццё, паласканне, адцісканне) па зададзенай праграме. Працэс мыцця цалкам аўтаматызаваны. Гэта заліванне і зліванне вады для ўсіх аперацый, увод мыйных сродкаў, замочванне, мыццё з награваннем вады з бялізнай у пральнай машыне да зададзенай тэмпературы, паласканне і адцісканне. Рознабаковы выбар праграм дазваляе мыць тканіны рознай хімічнай структуры якасна, бялізна пры гэтым не зношваецца.

Аўтаматычныя пральныя машыны можна падзяліць на дзве асноўныя групы: машыны з верхняй загрузкай і машыны з франтальнай загрузкай. У свой час вялася дыскусія наконт надзейнасці пральных машын у залежнасці ад спосабу загрузкі (верхняй ці франтальнай). У пральных машын з верхняй загрузкай барабан мацуецца на двух валах, а ў франтальных – на адным. Як паказалі рэсурсныя выпрабаванні, надзейнасць мацавання барабана залежыць ад якасці канструкцыі канкрэтнай мадэлі, а не ад колькасці валоў ці спосабу загрузкі.

**Магазін "Бытавая тэхніка" ІП Уладзіміра Сідарава, што знаходзіцца па адрасе: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143б (гандлёвы цэнтр "Модуль", 1-ы паверх), прапануе вялікі асартымент электратавараў для сябе, для дома, для гатавання ежы і, вядома ж, пральныя машыны розных вытворцаў. Абслуговы персанал магазіна азнаёміць вас з таварам, што зацікавіў, адкажа на ўсе вашы пытанні.**

Таксама аказваюцца наступныя паслугі: дастаўка пакупкі дадому, устаноўка (калі гэта пральная машына ці воданагравальнік), гарантыйнае і пасляатгарантыйнае абслугоўванне. Калі вы дакладна ведаеце, чаго хочаце, то можна не ўставаць з канапы, а проста набраць наш нумар **4-54-90** і чакаць сваю пакупку.

**Чакаем вас за пакупкамі ці тэлефануйце нам!**

■ ПАСЛУГІ

## Новы нумар

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад сярэдзіны сакавіка дзеля атрымання тэлефоннай даведкі маладзечанцы мусяць набіраць 009.**

Па словах намесніка начальніка раённага вузла электрасувязі Мікалая Ліманоўскага, пераход на 009 адбыўся ў сувязі з ўвядзеннем па краіне адзінай трохзначнай нумарацыі для тэлефонных нумароў спецслужбаў і службаў дадатковых паслуг. Патэлефанаваць у даведку і атрымаць іншыя платныя тэлефонныя паслугі не змогуць абаненты, у якіх заблакіраваны выхад "на міжгорад".

Надалей плануецца перавесці на трохзначныя нумары таксама міліцыю, "хуткую" і службу газу.

**Святлана ЦІШКО.**

## Лічбавая сувязь

**СМАРГОНЬ. Тэлефонныя нумары абанентаў АТС-2 з 11 па 22 красавіка будуць пераключаныя на лічбавую станцыю.**

Нумар не зменіцца, а якасць тэлефоннай сувязі, па словах галоўнага інжынера раённага вузла электрасувязі **Уладзіміра Карнея**, палепшыцца. Лічбавая станцыя дае магчымасць карыстацца і іншымі відамі паслуг. Падчас пераключэння магчымыя перабоі ў рабоце.

**Святлана ЦІШКО.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 7.04 руб. | 14.04 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2154,00 | 2154,00 |
| Еўра | 2775,75 | 2790,08 |
| Злоты | 674,94 | 685,05 |
| Літ | 803,9 | 808,07 |
| Расійскі рубель | 77,28 | 77,51 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2150/2170 | 2150/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 6.04 | 13.04 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 14900 | 14900 |
| Сасіскі, 1 кг | 6300 | 6300 |
| Селядзец, 1 кг | 4200 | 3900 |
| Рыс, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1850 | 1800 |
| Алей, 1 л | 2600 | 2600 |
| Маянэз, 200 г | 620 | 620 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2600 | 2600 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1450 | 1450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 1100 | 1100 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 900 | 850 |
| Капуста, 1 кг | 1200 | 1200 |
| Морква, 1 кг | 1200 | 1500 |
| Лімоны, 1 кг | 3000 | 3500 |
| Апельсіны, 1 кг | 2600 | 2700 |
| Яблыкі, 1 кг | 1600 | 1800 |
| Памідоры, 1 кг | – | 3500 |

**Сялянскія прадукты**

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 1200 | 1200 |
| Масла, 1 кг | 6000 | 6000 |
| Тварог, 1 кг | 3500 | 3500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 2200 | 2500 |
| Сала, 1 кг | 6500 | 7000 |
| Бульба, 1 вядро | 1500 | 1500 |
| Смятана, 1 л | 3500 | 3500 |



■ НАШЫ ГРОШЫ

## Рыбалка і паляванне будуць платныя

**ВІЛЕЙКА. Ад 8 красавіка ўсе аматары рыбалкі на Вілейскім вадасховішчы плацяць збор. Сума, роўная 5% ад базавай велічыні, бярэцца за кожны дзень, праведзены з вудай. Гэта 1275 рублёў.**

Такое палажэнне прыняў раённы савет дэпутатаў на сесіі, што прайшла 29 сакавіка. Не абышлі дэпутаты і паляўнічых. Яны будуць уносіць у бюджэт палову базавай велічыні ў год.

Плаціць збор будуць толькі тыя, хто рыбачыць на Вілейскім вадасховішчы. На іншых вадаёмах і рэках раёна рыбалка бясплатная. Дэпутаты падчас сесіі не вызначыліся з самым галоўным пытаннем – як будуць працаваць пункты аплаты (сельсаветы, крамы, лодачная станцыя). Большасць людзей прыязджае на рыбалку зранку, калі яны яшчэ зачыненыя. Набыць квіток у ранні час яны не змогуць.

Па словах старшыні раённага савета дэпутатаў **Яўгена Ігнатовіча**, разглядаецца пытанне аб набыцці квіткоў на рыбалку па прынцыпу "сёння на заўтра".

Квіткі на аплату ў рыбакоў будуць правяраць прадстаўнікі падатковай інспекцыі, інспекцыі па ахове воднага і раслиннага свету і інш. Штрафу за яго адсутнасць не будзе. "Кантралёры проста папросяць рыбака зматаць вуду", – запэўніў Яўген Ігнатовіч.

Непаўналетнія могуць рыбачыць бясплатна.

**Анатоль ЗАНКАВІЧ.**

**Да ўвагі абанентаў "Энэргазбыту".**
Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 12.03.2005 года №264 "Аб устанаўленні для насельніцтва тарыфаў на электрычную і цеплавую энэргію" ўводзяцца новыя тарыфы на электрычную і цеплавую энэргію для насельніцтва. Пастанова ўступіла ў сілу з 1 красавіка 2005 года.

### Тарыфы на электрычную і цеплавую энэргію для насельніцтва на 2005 год

(рублі)

| | Адзінка вымярэння | з 1.04 | з 1.05 | з 1.06 | з 1.07 | з 1.08 | з 1.09 | з 1.10 | з 1.11 | з 1.12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Электрычная энэргія, за выключэннем указанай у пункце 2 | 1кВт/г | | | | | | | | | |
| **у жылых дамах (кватэрах), якія не абсталяваныя электрычнымі плітамі** | | 76.2 | 77.7 | 79.3 | 80.9 | 82.5 | 84.5 | 85.9 | 87.6 | 88.1 |
| **у жылых дамах (кватэрах), якія абсталяваныя электрычнымі плітамі** | | 55.3 | 56.4 | 57.5 | 58.7 | 59.9 | 61.1 | 62.3 | 63.5 | 63.9 |
| 2. Электрычная энэргія для патрэб абагрэву і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш за 5 кВт | 1 кВт/г | | | | | | | | | |
| **часы начнога мінімуму нагрузак (з 23.00 да 6.00)** | | 76.2 | 77.7 | 79.3 | 80.9 | 82.5 | 84.2 | 85.9 | 87.6 | 88.1 |
| **іншы час сутак** | | 380.8 | 388.4 | 396.2 | 404.1 | 412.2 | 420.4 | 428.8 | 437.4 | 440.0 |
| 3. Цеплавая энэргія (для патрэб абагрэву і гарачага водазабеспячэння) | 1Гкал | 29224.4 | 29420.2 | 29617.3 | 29815.7 | 30015.5 | 30216.6 | 30419.1 | 30622.9 | |

**ММА "Энэргазбыт"**

■ ПЕРАДАДЗЕНА Ў СУД

# Дзве смерці ад нажа

**МАЛАДЗЕЧНА. Пракуратура закончыла расследаванне двайнога забойства, якое адбылося 6 студзеня ў кватэры аднаго з дамоў па вуліцы Будаўнікоў. У забойстве 58–гадовага гаспадара Пятра П. і 40–гадовай Іны Ш. следчыя абвінавацілі сужыльніка жанчыны, 39–гадовага Віктара Д.**



**Пракуратура закончыла расследаванне двайнога забойства, якое адбылося 6 студзеня ў кватэры аднаго з дамоў па вуліцы Будаўнікоў у Маладзечне.**

Фота ClipART.

Справа накіраваная ў суд. У бліжэйшы час абвінавачанага будуць судзіць па першым і шостым пунктах другой часткі артыкула 139 Крымінальнага кодэкса – наўмыснае процілраўнае пазбаўленне жыцця двух асоб, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю, – забойства.

Паводле матэрыялаў праведзенага следства, каля палловы адзінаццатай вечара 6 студзеня дзяжурны гарраддзела міліцыі перадаў групе хуткага рэагавання ўказанне тэрмінова выехаць на вуліцу Будаўнікоў. З кватэры аднаго з дамоў чуліся крыкі аб дапамозе. Аператыўнікі праз дзве хвіліны былі на месцы.

Дзверы ў кватэру былі адчыненыя. На лесвічнай пляцоўцы і на падлозе ў калідоры кватэры – плямы, падобныя на кроў. У адным з пакояў міліцыянеры ўбачылі два трупы, мужчыны і жанчыны, з яўнымі прыкметамі гвалтоўнай смерці. Цела мужчыны ляжала на ложку, цела жанчыны – на падлозе.

У пад'ездзе міліцыянеры затрымалі падазронага. Ягоадзенне і рукі былі ў крыві, у руцэ – кухонны нож. Супрацоўнікі мужчына не аказаў, нож, па патрабаванні аператыўнікаў, кінуў на падлогу, на руках зашчаліліся наручнікі.

Паводле дадзеных супрацоўнікаў групы хуткага рэагавання, падазроны быў у стане алкагольнага ап'янення. Сказаў, што жыве ў кватэры, дзе знаходзіцца забітыя. На пытанне, што там адбылося, дасłоўна сказаў: "Я яму чатыры разы, а ён яшчэ паўзе..." Па абрыўках фраз было зразумела, што ў кватэры адбыўся канфлікт і затрыманы камусьці наносіў удары.

Праведзенае следства высветліла, што гаспадаром кватэры, дзе адбылася трагедыя, быў 58–гадовы Пётр П. Сужыльнікі Віктар Д і Іна Ш. наймалі ў яго пакой. Па паказаннях шматлікіх сведкаў, адносіны Віктара і Іны былі не вельмі добрыя. Сваркі праходзілі з-за розных дробязяў. Віктар апошнім часам нідзе не працаваў, злоўжываў спіртным. Падчас п'янак вёў сябе агрэсіўна, паказваў сваю перавагу над астатнімі.

Іна ў сваю чаргу не саступала Віктару, увесь час агрызалася, таксама была не супраць выпіць. Падпрацоўвала прыватным цырульнікам. За паслугі з ёй часта разлічваліся гарэлкай і віном.

Гаспадар, Пётр П., як расказвалі сведкі, быў спакойным, ціхім п'яніцам. Ніколі ні з кім не канфліктаваў. Часам толькі лаяўся на Іну. З пенсіі ён даваў ёй грошы на прадукты і віно, і гаспадару кватэры здавалася, што жанчына яго падманвае.

Апошнімі, хто бачыў жыхароў кватэры, былі іх знаёмыя – муж і жонка К. У дзень здарэння яны ўсе разам выпівалі ў кватэры Пятра прыкладна з 9 да 10 гадзін вечара. Па паказаннях Уладзіміра К. і яго жонкі, Віктар, Іна і Пётр былі п'яныя і сварыліся. Асабліва агрэсіўна паводзіў сябе Віктар.

Следства лічыць даказанай віну Віктара ў двайным забойстве, нягледзячы на тое, што падазроны прызнае сябе вінаватым часткова. Ён сцвярджае, што Іну не забіваў. Па яго версіі, каля 23 гадзін ён зайшоў у пакой і ўбачыў, што сужыцелька мёртвая, а побач ляжыць нож. Мужчына, па яго словах, падумаў, што Іну забіў Пётр. Як сцвярджае Віктар, ён узяў нож і адзін раз ударыў гаспадара ў грудзі. Што было потым, не памятае.

Вынікі праведзеных экспертыз і паказанні сведкаў дазваляюць следству крытычна ставіцца да такіх паказанняў.

Паводле экспертызы, Іне было нанесена не менш за шэсць удараў рукамі па галаве і тулаве і не менш за пяць удараў нажом. Пятру – не менш за 12 удараў рукамі і не менш за 12 — нажом.

Можна толькі здагадвацца, што на самой справе стала прычынай крывавай трагедыі. Апошняе слова застаецца за судом. У выпадку, калі суд прызнае Віктара вінаватым у двайным забойстве, яму пагражае ад васьмі гадоў пазбаўлення волі да смяротнага пакарання.

**Віталь ЮРЭВІЧ, следчы Маладзечанскай міжрайпракуратуры. Сяргей ЗЯНЬКО.**

■ НЕ РАЗГУБІСЯ

## Першая дапамога

**Намеснік галоўнага доктара па лячэбнай частцы Маладзечанскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Ігар Салагуб дае парады па аказанні першай дапамогі пры траўмах.**

### Вывіхі рук і ног

**Агульныя звесткі**

Вывіх – пашкоджанне сустаў, пры якім зрушаюцца косці, што знаходзяцца ў поласці сустава, з выхадам адной з іх у тканкі. Пераважна ўзнікае пад уздзеяннем непрамой траўмы.

Так, вывіх бядра магчымы пры падзенні на сагнутую нагу з адначасовым паваротам нагі ўнутр, вывіх пляча – пры падзенні на выцягнутую руку. Пры гэтым магчыма пашкоджанне сустаўнай капсулы з траўмай сасудаў і нервовых ствалоў. Найбольш часта сустракаюцца вывіхі плечавога сустава.

**Сімптомы**

Боль у руцэ ці назе, рэзкая дэфармацыя (западзенне) вобласці сустава, адсутнасць актыўных рухаў, змяненне даўжыні пашкоджанай рукі ці нагі.

**Першая дапамога**

У першую чаргу зменшыце боль. Пакладзіце холад на пашкоджаны сустаў, дайце пацярпеламу абязбольвальны сродак – анальгін, амідапірын і г.д. Зафіксуйце руку ці нагу ў тым становішчы, якое яна прыняла.

Руку падвесьце на хусцінку, нагу зафіксуйце з дапамогай шыны. Стандартнай драцяной шыны Крамера альбо імправізаванай – кардоннай, фанернай, драўлянай ці зробленай з падручных сродкаў – дошкі, палкі, галіны, парасона. Прыбінтуйце шыну да нагі.



Матэрыял для шыны трэба выбраць дастаткова моцны, каб, нягледзячы на скарачэнне мышцаў, зрабіць суставы нерухомымі. Прыдайце шыне, наколькі дазваляе яе эластычнасць, форму фіксуемай рукі ці нагі. Накладзіце яе на адзенне, папярэдне абклаўшы ватай, бінтам ці мяккай тканінай. Прыбінтуйце ці прывяжыце чым–небудзь шыну у трох–чатырох месцах да цела.

Не трэба самастойна ўпраўляць вывіх ці прыдаваць руцэ ці назе натуральнае становішча. Пацярпелага абавязкова дастаўце да доктара. Часам цяжка ўстанавіць, вывіх гэта ці перелом. Тым больш, што вывіхі часта суправаджаюцца трэшчынамі і пераломамі касцей. Таму неабходна рэнтгеналагічнае даследаванне ва ўмовах медыцынскай установы.

У вас у запасе тры–чатыры гадзіны. Потым управіць сустаў значна складаней з–за ацёку, які развіваецца, і крыві, што збіраецца ў суставе.



**Доктар Ігар САЛАГУБ.**

■ ПЕРАДАДЗЕНА Ў СУД

# Мой дом – мая крэпасць

**МАЛАДЗЕЧНА. З пачатку года ў горадзе і раёне адбылося 50 узгаранняў. Асноўная прычына пажараў – парушэнні правілаў эксплуатацыі печаў, электрапрыбораў, а таксама неасцярожнае абыходжанне з агнём.**

Часта вінаватыя ў пажарах жыхары дамоў. Здавалася б, яны павінны быць удзячныя супрацоўнікам аддзела па надзвычайных сітуацыях, якія падчас тэхнічнага даследавання дома не толькі адзначаць парушэнні, але і праінструктуюць аб мерах пажарнай бяспекі, падкажуць, дзе лепш усталяваць аўтаномны пажарны апавяшчальнік. А малазабяспечаным грамадзянам, якія стаяць на ўліку ва ўпраўленні сацыяльнай абароны, дапамогуць у рамонце пячнога ацяплення. І ўсё гэта бясплатна.

Памятайце, што ў жылых дамах забараняецца пакідаць без нагляду тэлевізары, радыёпрыёмнікі, магнітафоны і іншыя бытавыя электрапрыборы, якія знаходзяцца пад напружаннем. Нельга таксама адцягваць электралямпы пры дапамозе вяровак і нітак, абгортваць іх паперай або матэрыяй, падвешваць абажуры і люстры на электрычных правадах. Акрамя таго, у прыватных дамах усе печы і коміны павінны быць спраўныя, без шчылін, атынкаваныя і пабеленыя. Ад сажы іх трэба чысціць да пачатку ацяпляльнага сезона і праз кожныя тры месяцы на працягу ўсяго ацяпляльнага сезона.

Зрабіць так, каб дом сапраўды стаў крэпасцю, можа кожны. І супрацоўнікі аддзела па надзвычайных сітуацыях дапамогуць вам засцерагчыся ад небяспекі.

**Наталля БЯЛЫХ, старшы інспектар групы прапаганды і навучання.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Трагедыя ў Судніках

**ВІЛЕЙКА. У вёсцы Суднікі Ільянскага сельсавета патануў хлопчык. 16 мая гэтага года Ігнату споўнілася 6 два гады.**

Трагедыя адбылася 12 красавіка ўвечары. Бацькі загінуўшага пакінулі хлопчыка разам з чатырохгадовым братам і пяцігадовай сястрой. Самі накіраваліся па сваіх справах. Маці — у суседнюю вёску, бацька – на палеткі.

Дзеці гулялі побач з домам, непадалёк была сажалка. Калі старэйшыя дзеці загуляліся, Ігнат падышоў да вадаёма, паслізнуўся і ўваліўся ў ваду.

Брат і сястра спрабавалі выцягнуць брата, але, калі дасталі Ігната, той быў ужо мёртвым. Старэйшым дзецям пашанцавала, што яны самі не ўпалі ў сажалку.

Вілейская пракуратура ў сувязі з надыходзячым вясенне-летнім сезонам раіць бацькам больш пільна прыглядаць за дзецьмі.

**Анатоль ІВАШКЕВІЧ, старшы памочнік пракурора Вілейскага р-на. Анатоль ЗАНКАВІЧ.**

**МЯДЗЕЛ. Раней судзімы жыхар вёскі Княгінін адабраў у свайго аднавяскоўца магнітафон.**

Пацярпелы заявіў у міліцыю. Падазроны затрыманы.

**МЯДЗЕЛ. У жыхара Расіі, які прыехаў у вёску Вераб'і, паводле яго слоў, у госці, 4 красавіка супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі 44 таблеткі псіхатропнага рэчыва.**

З пачатку месяца гэта ўжо другое падобнае здарэнне. Раней у райцэнтры затрымалі мінчаніна з наркатычнымі рэчывамі.

**МАЛАДЗЕЧНА. Каля вёскі Барок, што на мяжы Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў, загінуў мужчына.**

8 красавіка, на аўтамабілі "Мерседэс" на яго наехаў 26-гадовы жыхар Маладзечна. Пацярпелы загінуў.

**Святлана ЦІШКО.**

Нам пішуць



# Сняцца мне Андрэйкі

**Я – жыхарка Маладзечна. Люблю свой горад, ганаруся ім, людзьмі, якія тут жывуць, чысцінёй вуліц. Але па начах усё роўна сняцца родныя Андрэйкі. Вёсачка на Мядзельшчыне, дзе нарадзілася і расла.**



У кожнага чалавека ёсць любімы сэрцу куток. Зінаіда Душкевіч з Маладзечна заўсёды ўспамінае сваю вёску Андрэйкі на Мядзельшчыне і бярозкі, якія раслі каля хаты яе любімага дзеда Захаркі.

Фота ClipArt.

У гады вайны ўсю нашу сям'ю, як і шмат іншых, вывезлі ў Германію. Адразу бацьку, а пасля і маму з двума дзецьмі. Мне было тры гады, брату Кольку і таго менш. У канцэнтрацыйным лагеры былі адны мучэнні. І хто ведае, ці засталіся б жывыя, каб не выпадак. Бацька, **Віталь Брацук**, якога ўзяў да сябе ў якасці работніка нейкі нямецкі пан, даведаўся, што сям'я ў лагеры, і ўпрасіў гаспадара забраць нас адтуль. Не ведаю, ці то ён і сапраўды быў добрым чалавекам, ці то патрабавалася яму дадатковая рабочая сіла, але праз нейкі час перавёз ён нас з мамай да сябе. Жылі ў Гамбургу, бацькі шмат і цяжка працавалі. Кожны дзень яны ўставалі і клаліся спаць з адной толькі марай: вярнуцца на сваю зямлю.

Мы дачакаліся гэтага дня. Але так і не змаглі адчуць цяпло роднай хаты. Немцы спалілі нашу вёску, і людзі перасяліліся ў зямлянкі. Памятаю, як мы ехалі ў вёску Русакі, дзе жылі блізкія сваякі — сям'я Шыкавец. Дапамаглі яны нам і адзеннем, і ежай, і добрым словам. Бо вёска – гэта вялікая сям'я.

Толькі з дапамогай землякоў мы пабудаваліся, крыху сталі на ногі. Ніколі не забыцца пра гэтых добрых, разумных людзей, многіх з якіх ужо нават няма ў жывых. Але ёсць іх дзеці. Вось возьмем **Зінаіду Дубягу**. Я памятаю яе маці і бацьку, добрых, сумленных, працавітых людзей, альбо **Клаўдзію Дземяшкевіч, Лідзію Чараповіч, Таісу Малафей, Клаўдзію Калбун, Лідзію Чараповіч, Любоў Крывенькую, Яўгенію Юбко**, сям'ю **Міхаіла Баранскага**. Гэтыя людзі і сёння жывуць у вёсачцы Андрэйкі. Працуюць, ходзяць у лес збіраць ягады і грыбы.

Мой мілы лес! Сосны, елкі, бярозы на дзесяткі кіламетраў. Як тут заўсёды вольна дыхаецца, як хораша думаецца. Дрэвы супакойваюць, разганяюць трывогі, убіраюць клопаты і напамінаюць пра дзяцінства: басаногае, нялёгкае, але шчаслівае.

Люблю прыехаць у сваю вёску, прайсціся роднай вуліцай. Бачылі б вы, якія прыбраныя, дагледжаныя тут двары, якія акуратныя агароды. Кругом чысціня, парадак, кветкі. Завітай да каго ў хату – сустрэнуць як родную. І пачастуюць, і нанач застаца прапануюць. А колькі розных страў, саленняў з'явіцца на гасцінным стале.

Цяжка жывецца на вёсцы. Рукі гэтых людзей ніколі не ведаюць спакою, не адпачываюць ад мазалёў. Але яны не скардзяцца. Дапамагаюць адно аднаму, выручаюць, калі трэба. У час святаў яшчэ і песню могуць зацягнуць. Мілыя, добрыя мае землякі! Я віншую ўсіх вас з вясной, з надыходзячым Вялікаднем, Днём Перамогі. Будзьце здаровыя, жывіце доўга і ў радасці. Мне ніколі не забыцца пра вас, родныя Андрэйкі, бярозкі, што стаяць каля хаты дарагога і любімага дзеда Захаркі.

**Зінаіда ДУШКЕВІЧ,**
**Маладзечна.**

# Просім дапамогі

**Гарадская арганізацыя ветэранаў звяртаецца да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, да ўсіх сведамых людзей аказаць фінансавую дапамогу ў выданні кнігі ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Станіслава Шмуглеўскага "Юность, обожженная войной".**

Кніга атрымала станоўчы водгук Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Яна будзе выдадзена да 60-годдзя Перамогі і ўручана вам на суму аказанай дапамогі.

Грошы просім пералічыць УП "Друкарня "Перамога" на разліковы рахунак 3012100320017 у філіяле 601 ААБ "Беларусбанк" МФО 769, УНН 600074908 з указаннем у плацежным даручэнні "За кнігу Станіслава Шмуглеўскага "Юность, обожженная войной".

**Водгук на кнігу Станіслава Шмуглеўскага "Юность, обожженная войной".**

Станіслаў Шмуглеўскі – кіраўнік адной з першых падпольных маладзежных арганізацый Беларусі, што дзейнічала са жніўня 1941 года на прадпрыемстве "Асінторф" Віцебскай вобласці. Аўтар дакладна і дакументальна апісвае гераічную дзейнасць падпольшчыкаў па забеспячэнні партызан разведданымі, збору зброі, распаўсюджванні падпольнай літаратуры, а таксама баявую і дыверсійную дзейнасць падпольшчыкаў, а затым партызан.

Шмат месца на старонках кнігі займае апісанне драматычных падзей вясной 1944 года ў Полацка-Лепельскай зоне – цяжкія баі з карнікамі, гераізм партызан і насельніцтва, поспехі і страты, прарыў з варожага акружэння.

Кніга напісана на фактычным матэрыяле, у ёй згадваецца вялікая колькасць імён удзельнікаў гістарычных падзей.

Нягледзячы на тое, што кніга адносіцца да жанру мастацкай прозы, яна цікавая гісторыкам і краязнаўцам, тым, хто прафесійна займаецца гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны. Аднак, каб надаць дакументальную значнасць кнізе, аўтару трэба зрабіць спасылку на крыніцу, па якой ён прыводзіць лічбы вынікаў баявой дзейнасці партызан 16-й Смаленскай брыгады. Трэба асцярожна выкарыстоўваць і лічбавы матэрыял, які адлюстроўвае страты партызан і ворага ў Полацка-Лепельскай аперацыі.

Кніга напісана даступнай мовай, лёгка, з цікавасцю чытаецца, забяспечана ілюстрацыямі і схемамі. Яна несумненна будзе запатрабавана чытачамі. Кніга патрэбная для выхавання патрыятычнага духу моладзі, пачуцця гордасці за краіну і народ, які перамог фашызм.

Захаванне гісторыі і выхаванне моладзі – вось галоўная місія, якую нясе кніга і з якой аўтар паспяхова справіўся.

**Г.БАРКУН, дырэктар Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.**

# Жыве на свеце Капусціна

**Краязнаўчы маршрут "Ільянскія даляглядыы" распрацоўвалі ў школе яшчэ ў мінулым годзе. Тады і з'явіўся ў сшытку кароценькі запіс пра Капусціна: "На 1 студзеня 2003 года пастаянна пражывае 28 чалавек, працаздольных – 6".**

Зімой надарылася пабыць у вёсцы.

– Ці расце ў Капусціне капуста? – пытаемся ў дзядка.

– Расце, але ўжо зіма.

– Дык чаму ж у ёй нікога не знаходзіць?

– Дык няма каму шукаць. Трэба, знаць, назву вёскі перайначыць.

Дзед пайшоў у сенцы, зачыніў за сабой дзверы. Ціха.

Летам зноў наведаліся ў Капусціна. Аднавіць старыя знаёмствы, набыць новыя. "Імпэт ужо не той, радасці не стае, рукі не слухаюцца, ногі баляць", – жаліцца вяскоўцы. Клопату ў іх хапае заўсёды. Што могуць – усё робяць самі. У многіх, да каго заходзіў у хату, у пакоях прыбрана, усюды чысціня. Па-ранейшаму рупныя **Уладзімір і Ганна Філоны, Кірыл і Алёна Адамовічы, Серафіма Пінчук, Віктар і Зінаіда Вараўкі** і іншыя.

Капусцінцы прасілі, каб дапамаглі мясцовыя ўлады зрабіць кладку праз раку Ілію. Тады дарога да аўтапрыпынку "Каўшэвічы" значна для іх скароціцца. Яшчэ яны хочуць, каб быў аднаўлены надмагільны помнік вяскоўцам, што загінулі ад рук немцаў. 12 чалавек старых і хворых людзей, якія не маглі ўцячы ў лес і засталіся ў хатах, немецкія каты спалілі ў гумне за вёскай. Загінулі **Любіна Пінчук, Васіль Пінчук, Янка Пінчук, Сымон Пінчук, Алена Пінчук, Танечка Пінчук, Марыя Пінчук, Аляксандра Семянёк, Соф'я Семянёк, Уладзя Семянёк, Ганна Камінская, Марыя Камінская**.

Вясной вучні і настаўнікі Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця дапамогуць вяскоўцам адрамантаваць надмагільны помнік на капусцінскіх могілках. Ужо ёсць такая дамоўленасць. А будаўнічымі матэрыяламі дапаможа Ільянскі сельвыканкам.

У Капусціне чыстая вуліца і парадак каля хат. Людзі ахвотна расказваюць пра сябе, не баяцца пярэчыць, калі нешта не па-іхнему. Усе апранутыя ахайна, амаль як гарадскія. Ёсць тут і дачнікі. Яны пабудавалі сабе прыгожыя дамы і летам жывуць тут сем'ямі, адпачываюць, працуюць, папраўляюць здароўе. Паміж дачнікамі і вяскоўцамі поўныя згода і разуменне.

Самы стары чалавек у Капусціне, мабыць, **Віктар Варайка**, якому цяпер 78 гадоў. Тут ён нарадзіўся, тут ажаніўся з мясцовай дзяўчынай Зінай, сюды вярнуўся пасля арміі, у якой давялося служыць ажно сем гадоў, тут нарадзіліся дзеці. Шмат і цяжка папрацаваў на зямлі і ў Ільянскім прамкамбінаце. "А цяпер няма здароўя – няма і ходу. Заўсёды нешта недзе баліць", – кажа Віктар Аляксандравіч.

У кнізе "Памяць. Вілейскі раён" пра Капусціна напісана так: " У 1923 годзе вёска ў Ільянскай гміне, 21 двор, 123 жыхары. У 1938 годзе вёска ў Ільянскай вясковай гміне, 23 двары, 141 жыхар. У 2003 годзе вёска, 15 двароў, 28 жыхароў".

У Капусціна з Ільі дарога вядзе праз Старую Гуту. Дайсці туды можна і з Каўшэвіч ад аўтобуснага прыпынку праз луг, а потым на кладку праз раку Ілію – гэта найкарацейшы шлях. Яшчэ ў Капусціна можна патрапіць праз Шчарачуху і з Казлоў.

Добрым людзям у гэтай вёсцы заўсёды радыя.

**Уладзімір КАЖАМЯКА,**
**кіраўнік краязнаўчага гуртка Ільянскай СШ імя Грымаця.**

# Дзякую за клопат

**Мой заезд у санаторый "Вяжуці", што ў Маладзечанскім раёне, прыйшоўся на 23 лютага. Нягледзячы на зімовае надвор'е ў сэрцы была вясна.**

Да гэтага часу знаходжуся пад уражаннем, якое атрымаў ад адпачынку. Цудоўная прырода, кругом лес, свежае паветра. Цудоўныя ўмовы, у санаторыі чыста, прыгожа, утульна. Добра нас там і лячылі. Адчуў моц і нават забыўся пра свае хваробы. А якая выдатная кухня, якія чулыя, цярплівыя, адказныя людзі там працуюць! Асабліву ўдзячнасць хачу выказаць дырэктару санаторыя **Наталлі Чарнявай**, намесніку дырэктара па медыцынскай частцы **Тамары Сіўцэвіч**. Гэтыя жанчыны робяць усё магчымае, каб адпачывальнікі адчувалі сябе добра, папраўлялі сваё здароўе, не сумавалі і атрымлівалі як мага больш станоўчых эмоцый. Нам было там добра, мы былі шчаслівымі. Дзякуй вам, работнікі санаторыя, і нізкі паклон. Ніколі не хварэйце, працуйце на карысць людзей.

**Уладзімір ЕРМАКОВІЧ,**
**Віцебск.**

■ ДАШКОЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ

# Італьянская сістэма ў беларускім садзе

**СМАРГОНЬ. Па сістэме свабоднага выхавання Марыі Мантэсоры чатыры гады працуе беларускамоўны дзіцячы сад у Асінаўшчызне. Гэта адзіная дашкольная ўстанова ў раёне, якая абрала гэтую педагагічную сістэму.**

Асаблівасць яе ў тым, што яна дае магчымасць кожнаму дзіцяці развівацца тым тэмпам, які падыходзіць менавіта яму. "Не прыніжайце дзіця, – казала Марыя Мантэсоры, – не рабіце за дзіця, дапамажыце яму рабіць самому". Гэтым прынцыпам і кіруюцца ў Асінаўшчызненскім садзе. Група "Сонейка" падзелена на зоны: у практычнай можна вучыцца пераліваць ваду са збана ў бутэлечку. "Найбольш гэты занятак любяць маленькія дзеці, якія толькі прыйшлі ў сад", – сказала ў інтэрв'ю "РГ" выхавальніца групы "Сонейка" **Жанна Грышан**. У іншых зонах вучацца раскладваць колеры па адценнях, адрозніваць віды тканіны, складваць кантыненты з кубікаў. Падчас заняткаў кожнае дзіця само выбірае сабе заданне. Выхавальніцы могуць падказаць, чым лепш заняцца сёння. Калі дзіця адмаўляецца, яго не прымушаюць. "Больш падабаецца працаваць па гэтай сістэме: добра відаць, як дзіця расце, набірае веды", – патлумачыла Жанна Грышан.

Перш чым перайсці на работу па сістэме Марыі Мантэсоры, выхавальніцы прайшлі двухгадовыя падрыхтоўчыя курсы, былі на практыцы ў іншых установах. Спачатку, па словах дырэктара школы-сада **Любові Кушняровай**, навучальныя матэрыялы рабілі самі, пасля ўпраўленне адукацыі дапамагло з грашмі. Цяпер пераробліваюць толькі некаторыя гульні, якія трэба адаптаваць для беларускамоўных груп.

На другім паверсе будынка месціцца група "Калабок", якая працуе з дзецьмі па дзяржаўнай праграме "Пралеска". Класы пачатковай школы – на першым. З-за дзвярэй кабінета, дзе вучацца першакласнікі, даносяцца словы моўнай размінкі: "Шпок-шпак, шпок-шпак. Шпакляваў шпакоўню шпак..."



**На прагулцы выхаванцы Асінаўшчызненскай школы-сада, што ў Смаргонскім раёне.**

Фота Святланы ЦІШКО.

Асінаўшчызненскую школу-сад наведваюць не толькі дзеці з гэтай вёскі, але і з суседніх Белевічаў, Мацюлянаў, Падзялёнага. Сад карыстаецца папулярнасцю ў бацькоў. "Была неяк на ранішніку ў пляменніка, – расказала **Лілія Рукшта** з Асінаўшчызны, якая праз месяц-другі прывядзе сюды сына Дзяніса. – Схадзілі ў групу. Колькі там розных цацак! І ў плане навучання тут шмат дадуць, і інтэр'ер добры. Я была ў іншым садзе раёна, магу параўноўваць. Тут як у музеі: восеньскія маразы падбіраюцца, а ў двары ўсё цвіце".

А яшчэ каля ўвахода ў сад стаяць млын і студня, зробленыя рукамі **Тадэвуша Лашакоўскага**, бацькі Артура і Яны Лашакоўскіх, якія наведваюць школу-сад. "Дзеці падчас прагулкі ад студні не адыходзяць", – адзначыла Любоў Кушнярова. Тадэвуш Лашакоўскі, сказала яна, нават бярвёны для сваіх вырабаў сам знайшоў.

Аздобіць двор дапамагае раённая інспекцыя прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Яна выдзяляе грошы, на якія школа-сад закупіла дрэўцы туі, блакітнай елкі, айвы.

Даглядае ўсю гэтую прыгажосць дворнік **Вера Дрожжа**. Па прафесіі яна швачка, на садоўніка не вучылася. Але, па словах Любові Кушняровай, ведае, як лепш падабраць кветкі і колеры. "Трэба не шкадаваць рук", – проста тлумачыць сваё майстэрства сама Вера Дрожжа.

**Святлана ЦІШКО.**

## Вынікі рэспубліканскіх алімпіяд для рэгіёну

| | Валожынскі раён | Вілейскі раён | Маладзечна | Мядзельскі раён | Смаргонскі раён |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларуская мова | | Марыя Собаль, 3 ст.<br>Андрэй Акушэвіч, 3 ст. | Насця Албут, 3 ст. | | |
| Руская мова | | Каця Асіпенка, 1ст. | | | |
| Замежная мова | | | Таня Семашкевіч, 1 ст.<br>Віка Куханчык, 2 ст.<br>Валя Коршук, 2 ст. | | |
| Хімія | Яўген Кузьмітовіч, 3 ст. | Сяргей Крачкоўскі, 2 ст. | | | |
| Біялогія | | Іра Голубева, 3 ст. | | | Юля Клявец, 3 ст.<br>Наталля Тумаш, 3 ст. |
| Геаграфія | | | Іра Джура, 1 ст.<br>Саша Пеўнеў, 2 ст.<br>Валодзя Каратаеў, 3 ст.<br>Сяргей Яршэвіч, 3 ст. | Юра Катляроў, 1 ст. | |
| Матэматыка | | | Іван Суботніцкі, 3 ст.<br>Валодзя Палуха, 3 ст. | | |
| Гісторыя | | | Яўген Уласавец, 2 ст. | | Максім Балыш, 3 ст. |
| Тэхналогія | | | | Надзя Вярбіцкая, 3 ст. | |

*1 ст. – дыплом першай ступені, 2 ст. – дыплом другой ступені, 3 ст. – дыплом трэцяй ступені.*

■ ШКОЛА

# "Вячорка"

**МАЛАДЗЕЧНА. Фае, шырокая лесвіца, раскрытыя насцеж дзверы ў кабінет дырэктара Віталя Крупянькова. "Самая звычайная школа", – думаю пра сябе я. І ў той жа час хачу высветліць, што ж такое "вячорка"? Найпрасцейшы шлях да атрымання атэстата аб сярэдняй адукацыі ці магчымасць праявіць творчыя і інтэлектуальныя здольнасці.**

Дырэктар знаёміць мяне з маладым спецыялістам, сацыяльным педагогам агульнаадукацыйнай вячэрняй школы Маладзечна **Ірынай Мілер**. Так ужо сталася, што пасля заканчэння вышэйшай навучальнай установы яе размеркавалі не ў гімназію альбо ліцэй, а ў вячэрнюю школу. Пасля такой закалкі, лічыць Ірына, работа ў іншай установе адукацыі не будзе выклікаць цяжкасцей.

Першы свой рабочы дзень яна правяла ў камісіі па справах непаўналетніх. І вельмі ўзрадавалася, што ў паводзінах навучэнцаў з'явілася больш станоўчых тэндэнцый. Па выніках 2004 года ў школе не зарэгістравана ніводнага злачынства. І ўсё гэта дзякуючы класным кіраўнікам, адміністрацыі школы, якія стараюцца, каб кожны з вучняў стаў лепшым, знайшоў месца ў жыцці.

Існуе яшчэ адна праблема – паспяховасць. Ірына Мілер толькі ўздыхае. Крыўдна, што ў творчых, кемлівых дзяцей адсутнічае жаданне вучыцца. І гэта ў той час, калі маладзечанская вячэрняя школа прапаноўвае столькі цікавага. За тры гады, з 10 па 12 клас, дзяўчаты набываюць спецыяльнасць па выбару: сакратар-машыністка, повар-кандытар, швачка. Хутка для іх будзе ўведзена яшчэ адна спецыяльнасць – "спецыяліст па прыродным дызайне". Што тычыцца хлопцаў, то ім таксама ёсць з чаго выбіраць: токар, муляр-пячнік, пажарны-выратавальнік. Для ўсіх ахвотных існуе і творчая спецыяльнасць: выканальнік дэкаратыўна-прыкладных работ.

Здавалася б, школа – ледзь не ідэал навучальнай установы: педагогі, якія разумеюць, рэальная магчымасць атрымаць атэстат, спецыяльнасць, дружны калектыў, крыху больш за 200 дзяцей. Але ж аднекуль узялося ўяўленне пра вячэрнюю школу як пра "другасортную" ўстанову. Сацыяльны педагог Ірына Мілер мае на гэты конт сваю думку: "Існуе меркаванне, – гаворыць яна, – што ў вячэрнюю школу прыходзяць не за ведамі, а за "халявай". Даводзіцца тлумачыць, што на самой справе не ўсё так проста. Тут таксама ёсць пастаянны кантроль як за паспяховасцю, так і за наведваннем. З першага верасня за парушэнне ўставу школы і пропускі заняткаў адлічана 18 чалавек".

Пасля наведвання гэтай установы застаўся толькі адзін нявысветлены момант: якім чынам складваюцца лёсы выпускнікоў "вячоркі"? З гэтым пытаннем я звярнулася да дырэктара школы Віталя Крупянькова: "Хлопцаў, як правіла, прызываюць на службу ў армію, а дзяўчаты, улічваючы тое, што на момант атрымання атэстата аб сярэдняй адукацыі становяцца паўналетнімі, спяшаюцца выйсці замуж, – расказвае ён. — Працэнтаў 60 маладых людзей працуюць па спецыяльнасці, якую атрымалі ў сценах школы. Вельмі прыемна было, калі наш былы выпускнік **Дзмітры Судніковіч**, што прыйшоў з арміі на кароткачасовы адпачынак, наведаў у першую чаргу не бацькоўскі дом, а педагогаў школы".

Гутарка ўжо падыходзіла да канца, калі заўважыла маладых людзей, што стаялі ля кабінета дырэктара. Не вытрымала, пацікавілася ў іх планамі на будучае. Дзесяцікласніца Дар'я, напрыклад, марыць паступіць у гандлёва-эканамічны каледж, яе аднакласніца Святлана прадоўжыць вучобу па спецыяльнасці сакратар-машыністка, а Сяргей збіраецца ў армію. Яны добра ведаюць, што ў гэтай школе кожнага з іх любяць і заўсёды чакаюць.

**Дар'я ЛОБАНЬ, вучаніца гімназіі №6 Маладзечна.**

■ МЕРКАВАННЕ

# Навошта школьная форма?

**МАЛАДЗЕЧНА. Міністэрства вынесла канчатковае рашэнне: вучні павінны насіць форму. Так вырашылі "наверсе", але што наконт гэтага думаюць дзеці, якім давядзецца апранаць аднолькавую адзежу?**

Падчас апытання супраць формы выказаліся 90 са 100 апытаных школьнікаў. Пытанне з формай даволі складанае і спрэчнае. Тут сутыкнуліся дзве групоўкі, два розныя слаі грамадства. З аднаго боку вучні, якія заўсёды хадзілі без формы і прывыклі апранацца, як хочуць, з другога – большасць дарослых, якія адчуваюць настальгію па часах, калі дзяўчынкі насілі карычневыя сукенкі, а хлопчыкі сінія касцюмы. Паспрабуем разгледзець пытанне з абодвух бакоў.

Першае, што вылучаюць прыхільнікі формы, гэта магчымасць апрануць вучня ў адзін касцюмчык, які ён будзе насіць увесь навучальны год, і не трэба купляць яму іншую адзежу. Па-другое, калі ўсе будуць апранутыя аднолькава, дзеці з малазабяспечаных сем'яў будуць адчуваць сябе больш утульна сярод равеснікаў.

На гэта працўнікі ўвядзення формы адказваюць, што аднолькавае адзенне пазбаўляе вучня індывідуальнасці, якую школьнікі найчасцей падкрэсліваюць знешнім выглядам.

Хто ў гэтай спрэчцы мае рацыю? Цяжка сказаць, але ў любым выпадку заўсёды можна прыйсці да кампрамісу, увесці такую форму, якую дзеці з задавальненнем апрануць самі. Вынікі можна будзе падвесці толькі з цягам часу.

**Вікторыя ДУБАНЕВІЧ, клуб юных журналістаў "Маладзік", ЦПР.**

■ СУСТРЭЧЫ

# Жаночы доктар



Акушэр-гінеколаг Юры Александроў дома гатуе торты, глядзіць футбол, гуляе ў прэферанс і чытае. Але заўсёды гатовы выехаць у раддом, каб прыняць роды.

Фота Анатоля ЗАНКАВІЧА.

**ВІЛЕЙКА. Загадчык акушэрскага аддзялення раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Юры Александроў за сваю 27-гадовую доктарскую практыку прыняў больш за тры з паловай тысячы родаў. Сваімі разважаннямі наконт медыцыны, жанчын і будучыні ён дзеліцца з чытачамі "Рэгіянальнай газеты".**

### Пра прафесію

Я хацеў стаць траўматолагам, але пры паступленні ў Гродзенскі медыцынскі інстытут знаёмая дактарка ўгаварыла стаць акушэрам-гінеколагам. За ўвесь час працы ў Вілейцы і Маладзечне не пашкадаваў ніводнага разу.

### Пра нованароджаных

Сёння дзяжурыў уначы – нарадзіліся дзве дзяўчынкі і хлопчык. Цяпер увогуле раджаюць няшмат, на Вілейку прыпадае каля 400 немаўлятак у год. Самым "ураджайным" быў 1986 год – 1700 дзяцей. Прыходзілася прымаць па дзевяць родаў за суткі.

### Пра аборты

Як ні сумна пра гэта гаварыць, але абортаў на сённяшні дзень больш, чым родаў. Я іх праціўнік і перад аперацыяй не адзін раз перапытваю жанчыну, ці добра яна падумала. Бываюць выпадкі, калі яны прыслухоўваюцца да парад медыкаў і раджаюць. Потым дзякуюць.

### Пра жанчын

Самай маладой маёй пацыентцы было 14 гадоў. А два гады таму прымаў роды ў 44-гадовай жанчыны. Яна нарадзіла дзяўчынку. Учора выпісалі жанчыну, якая нарадзіла пятае дзіця – хлопчыка. Пасля чатырох дзяўчынак. Шчасця было...

### Пра работу

Сядзім мы цяпер на кухні, размаўляем. Ведаеш, мяне кожную хвіліну могуць выклікаць. І ўначы таксама. Цяжка? Бывае, але не шкадую – прыемна дапамагаць людзям.

### Пра адпачынак

Галоўны адпачынак для доктара – гэта сон. Люблю пачытаць творы Пікуля, Бушкова. Гляджу футбол – хварэю за "Баварыю". Чалавек азартны, але з розумам. З сябрамі ў прэферанс гуляю. Так і адпачываю.

### Пра здароўе

Здароўе ў нашых людзей не вельмі. Экалогія, ведаеш, умовы жыцця. Самае горшае ў тым, што жанчыны самі сябе не шкадуюць і не шануюць. Спачатку цыгарэты, алкаголь, а пасля здзіўляюцца, чаму дзіця хворае.

### Пра ежу

Нам трэба больш есці бялковых прадуктаў. Рыбы, мяса, гародніны. Бульба, хлеб вельмі насычаныя вугляводамі. Я разумею, што не кожны можа дазволіць сабе правільна харчавацца. Але будучым мамам раю перш за ўсё сачыць за сваім меню і не забывацца пра фізічныя практыкаванні.

### Пра "кесарава"

Калі ў 1978 годзе рэгістравалася 14-15 выпадкаў кесарава сячэння, то цяпер ужо 60-70. Але гэта абсалютна нармальны паказчык у свеце. Усё проста – мяняецца канстытуцыя цела. Жанчыны становяцца больш мініяцюрнымі. Што параіць? Больш фізічных практыкаванняў.

### Пра любімую пацыентку

Самая любімая – гэта тая, што клапоціцца пра сваё здароўе і здароўе свайго дзіцяці. Якая не вучыць мяне, што рабіць. Якая ўважліва слухае і выконвае тое, што ёй гавораць дактары.

### Пра сям'ю

Сям'я, самая звычайная: жонка – доктар-эндакрынолаг, сын – траўматолаг, дачка – візажыст. Радуе мяне 10-гадовы ўнук, чакаю яшчэ аднаго. Не, роды прымаць не буду – даверу іншым.

### Пра будучыню

Што ў будучыні? Усё як заўсёды – работа - дом - работа. Час ляціць... Прыходзіць жанчына – трэці месяц цяжарнасці. Не паспееш азірнуцца, як ужо роды ў яе прымаеш.

І калі сур'ёзна, то не бойцеся, жанчыны, раджайце! Гэта ж ваша прызначэнне.

Падрыхтаваў Анатоль ЗАНКАВІЧ.

■ СЕКТЫ

# Не падвяргайце сябе небяспецы

**Цяпер існуе нямала розных небяспечных дэструктурных груповак, якія выкарыстоўваюць разнастайныя тактычныя прыёмы і ў якасці прыкрыцця камерцыйную дзейнасць, адукацыйныя і аздараўленчыя мерапрыемствы.**

Іх дабычай нярэдка становяцца энэргічныя і прадпрымальныя маладыя людзі. Таму ім, акрамя камерцыйных навыкаў, неабходны веды асноў камерцыйнай і інфармацыйнай бяспекі, уменне распазнаць маніпуляцыі і чужы кантроль свядомасці на ранніх этапах знаёмства.

Вось адзін выпадак, што адбыўся са студэнтам ВНУ, які трапіў пад уплыў таталітарнай групоўкі. Яго запрасілі ў камерцыйную групу як чалавека з высокімі дзелавымі якасцямі. Калі ён стаў добра зарабляць і ўклаў немалую суму грошай у абарот, то пачаліся метады падаўлення асобы, і ён зразумеў, што трапіў у дурную кампанію. Пасля разрыву сувязі з групоўкай прашло месяца працягвалася. Будучы чалавекам энэргічным і кемлівым, ён знайшоў сродкі ўласнай псіхафізічнай рэабілітацыі.

Паспяховая рэабілітацыя магчыма толькі пасля кантактаў з нізкапробнымі сектамі. Рэабілітацыі ахвяр уплыву эфектыўна дзеючых таталітарных і дэструктыўных сект няма. У Маскве былы следчы арганізаваў прыватную дэтэктыўную дзейнасць па пошуку, захопу і перадачы бацькам маладых людзей, якія трапілі пад уплыў сект. Калі аператыўнапошукавая дзейнасць і бывае ўдачнай, то да нармальнага паўнацэннага жыцця вяртаюцца нямногія. У секце з часам пад уплывам групавога ціску адбываецца мутацыя свядомасці, і чалавек пачынае жыць чужымі думкамі і ідэямі.

Не будзьце бяспечнымі, звяртайце ўвагу на наяўнасць ліцэнзій і сертыфікатаў на выкладчыцкую і кансультацыйную дзейнасць. Бо калі аб'яднанне зарэгістраванае, мае офіс, культавы будынак, кантралюецца дзяржаўнымі структурамі, то даверу да яго больш, і яно не ўяўляе грамадскай небяспекі.

Аляксандр ГУЛАК, доктар.

■ РАМОНТ

# Абнавілі вестыбюль




Галоўны доктар Маладзечанскага ТМА Аляксандр Бузюк, выканальнік абавязкаў старшыні гарвыканкама Яфім Цэльчык і дэпутат Палаты прадстаўнікоў Мікалай Чурсін ганарова адчынілі галоўны ўваход паліклінікі №1.

Фота Анатоля ЗАНКАВІЧА.

**МАЛАДЗЕЧНА. У пятніцу, 8 красавіка, пасля паўтарамесячнага рамонту, быў адчынены галоўны ўваход паліклінікі №1. Людзей, якія звяртаюцца па дапамогу, цяпер чакаюць у сямі акенцах рэгістратуры. Да рамонту іх было толькі тры.**

"Мы толькі пачынаем рамонт, – адзначыла загадчыца паліклінікі Лілія Лісоўская. – У будучым будзем абнаўляць усю паліклініку".

У час рамонту вестыбюля, рэгістратура працавала на пятым паверсе, у адным з кабінетаў. "Талоны выдавалі ўтраіх, яшчэ і загадчыца дапамагала, – кажа медрэгістратар Марыя Сценчык, – а цяпер зусім іншая справа – утульна, свабодна і пацыентам лепей. Вунь колькі новых акенцаў для іх".

Першым наведвальнікам рэгістратуры стала 18-гадовая Аляксандра Казак. Яна прыйшла паставіць пячатку на даведцы. "Канешне, цяпер тут значна лепей, — сказала дзяўчына. – Раней была чарга, талонаў да доктара не хапала, а цяпер зусім іншая справа".

"За апошні месяц незапатрабаванымі засталіся 870 талонаў, – патлумачыла Лілія Лісоўская ў інтэрв'ю "РГ". – Спачатку людзі іх заказалі, а пасля не прыйшлі да доктара. Талон ляжыць, чакае, а гаспадара няма. Вось так і з'яўляецца недахоп".

На тэлефонны сувязі ў паліклініцы цяпер працуюць восем медрэгістратараў. Яны прымаюць званкі на папяровы запіс да доктара і тых, каму патрэбна дапамога дома.

У будучым на першым паверсе паліклінікі з'явіцца дыягнастычны цэнтр і будуць аднолены ўсе кабінеты. Такія планы ў калектыву паліклінікі.

Анатоль ЗАНКАВІЧ.

■ ПРЫРОДА – НАШ ЛЕКАР

# Мёд карысны для страўніка

**Штодзённае ўмеранае спажыванне мёду рэгулюе работу кішэчніка.**

Мёд зніжае павышаную кіслотнасць страўнікавага соку, і яго могуць смела есці тыя, хто пакутуе на язвенную хваробу і гастрыт.

Рэнтгенаўскія даследаванні паказалі, што пры лячэнні лекамі хвароб страўніка і дванаццаціперснай кішкі язва зарубцоўваецца ў кожнага трэцяга хворага, а пры спажыванні мёду – у кожнага другога!

Пры лячэнні прымаюць 2 сталовыя лыжкі мёду нашча ці позна вечарам. Добры эфект атрымліваецца пры прыёме мёду, разбаўленага цёплай вадой. Па рэкамендацыі доктара мёдалячэнне можна камбінаваць і з медыкаментамі.

### Мёду якасці снатворнага

Народная медыцына разглядае мёд як найлепшы сродак ад бяссонніцы. Калі вы ноччу засынаеце з цяжкасцю ці, заснуўшы, лёгка прасынаецеся і не можаце потым доўга заснуць, карыстайцеся мёдам. Штодзённа ў час вячэры з'ядайце па 1 сталовай лыжцы мёду.

Проста МАРЫЯ.

■ ГРЭКА-РЫМСКАЯ БАРАЦЬБА

# На прызы чэмпіёна



Рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе, што прайшоў 1–3 красавіка ў Маладзечне, сабраў 185 спартсменаў з усёй Беларусі.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

**МАЛАДЗЕЧНА. Чацвёрты рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе на прызы чэмпіёна Еўропы Барыса Радкевіча, што прайшоў у горадзе 1–3 красавіка, сабраў 17 каманд з усёй Беларусі: з Брэста, Гомеля, Гродна, Навагрудка і іншых гарадоў.**

"Узровень турніру высокі: ёсць квота па колькасці ўдзельнікаў, – сказаў галоўны суддзя спаборніцтваў **Сяргей Шчансновіч** у інтэрв'ю "РГ". – Маладзечанцы малайцы, добра бароліся".

У сваіх вагавых катэгорыях **Дзмітры Рабаў, Яўген Туровіч, Яўген Колесень** з Маладзечна занялі другое месца. **Мікалай Стадуб** стаў пераможцам.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

# Два матчы ў Смаргоні

**Падчас выязнога збору "Смаргонь" правяла 6 сустрэч на розных стадыёнах Крымскага паўвострава.**

З беларускімі камандамі "Днепр-Трансмаш" (Магілёў, Д1) 1:0 (Вышынскі), "Змена-2" (Мінск, Д3) 4:1 (Маргулец, Вышынскі, Кітурка, Новаш). З камандамі ніжэйшых ліг Украіны і Расіі "Авангард" (Вінніцкая вобласць) 4:0 (Цыбуль, Вышынскі – па 2), "Спартак" (Лухвіцы) 1:1 (Маргулец), "Валачанін-Ратмір" (Вышні Валачок) 1:4 (Вышынскі) і 1:0 (Кітурка).

"Лакаматыў" (Мінск) з вышэйшай лігі не мае права праводзіць дамашнія матчы на сваім стадыёне, бо трэба ўстанавіць дадатковыя месцы для балельшчыкаў. І пакуль работы не будуць праведзеныя, мінчане арандуюць смаргонскі стадыён "Юнацтва", дзе ў першым туры прымуць "Зорку-ВА-БДУ". Значыць, смаргонскіх балельшчыкаў у гэтыя выхадныя чакаюць адразу дзве сустрэчы з футболам.

Дарэчы, якраз з "Лакаматыва" могуць быць узятыя ў арэнду паўабаронца Дзмітрый Асіпенка (1982) і абаронца Сяргей Халецкі (1984).

Ужо распачалі сезон, згуляўшы матчы чвэрцьфіналу Кубка, "Белшына" (супраць гродзенскага "Нёмана" 1:0 на выездзе і 1:2 дома) і "Баранавічы" (супраць мінскага МТЗ-РІПА 0:0 на выездзе і 1:2 дома). Далей прайсці яны не здолелі.

### Маладзечанцы выйгралі турнір

У чэмпіянаце другой лігі, хутчэй за ўсё, прымуць удзел 15 каманд. Першы тур адбудзецца 23 красавіка. Маладзечанцы паедуць у госці да "Пінска-900". Потым у наступныя выхадныя (30 красавіка альбо 1 мая) матчам супраць "Спартака" (Шклоў) адкрыюць дамашні сезон, як мяркуецца, у Чысці.

Каманда выйграла турнір на стадыёне СШ №5, які прайшоў 7-10 красавіка. Пасля чаго трэнер Уладзімір Лук'яненка павёз сталічных юнакоў дадому, бо адначасова з футбольнымі заняткамі ім трэба вучыцца ў школе.

"Маладзечна" саступіла дублю "Тарпеда" (Жодзіна) 0:2, перамагла дубль "Дарыды" (Мінскі раён) 3:1 (Міхаіл Ляшкевіч, Яўген Тарчыла, Сяргей Клімук) і "Лівадзію" (Дзяржынск) 1:0 (Дзмітрый Касцюк).

1. Маладзечна – 6
2. Дарыда (дубль) – 6
3. Лівадзія (дубль) – 3
4. Тарпеда – 3

Лепшым абаронцам турніру прызнаны Станіслаў Драганаў.

З камандай трэніруецца былы выхаванец мясцовай ДЮСШ-2 Станіслаў Баламут (1987), які апошнія сезоны правёў у МТЗ-РІПА. Магчыма, далучацца да трэніровак мясцовы Аляксандр Грыхуцік з леташняга складу і некалькі новых гульцоў з Мінска.

Не спатрэбіліся паслугі Аляксандра Харэцкага, а Алег Вераціла запрошаны ў мінскае "Дынама".

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ТУРЫЗМ

# На каяках і байдарках

**МАЛАДЗЕЧНА. На чэмпіянаце Мінскай вобласці па тэхніцы воднага турызму каманда Маладзечна заняла трэцяе месца ў сваёй групе.**

Спаборніцтвы адбываліся 8-10 красавіка ў Барысаве на рацэ Сха. Каманды былі падзеленыя на дзве групы: каманды раёнаў і каманды гарадоў. Маладзечна на гэтым чэмпіянаце прадстаўлялі васьмёра воднікаў з турклуба "Пілігрым".

У праграме спаборніцтваў былі слалам на каяку сярод мужчын і жанчын, слалам на катамаранах і на байдарках (мужчынскі і змешаны экіпажы). Большасць маладзечанцаў "адкрылі купальны сезон", пераварнуўшыся на каяку ці байдарцы.

Першае месца занялі барысаўчане, другое – жодзінцы. За імі – каманда Маладзечна.

### Уражанні "чайніка"

Першы аверкіль (падчас аверкілю байдарка ці каяк пераварочваецца на 180 градусаў, дном уверх) выклікае вельмі моцныя эмоцыі, якія ў звычайных умовах спазнаць немагчыма.

Паспяваеш толькі заўважыць, што свет крутануўся, – і ты ў рацэ. Гэта па-сапраўднаму страшна. "Паветра!" – патрабуе арганізм. Рывок, удыхаеш паветра – і пластыкавы корпус байдаркі, якая шчыльна трымае ногі, накрывае цябе, прымушаючы зноў з галавой пайсці пад ваду. Рывок, удых – хапаешся за сябра, якому і без таго цяжка. Зноў пад ваду. "Я тут і застануся", – мільгае думка ў галаве. Яшчэ рывок, удых.

І так некалькі разоў, пакуль чалавек не ўспомніць, што спачатку трэба вызваліць ногі з байдаркі. Нарэшце выдзіраеш іх – выратавальная камізэлька трымае цела на паверхні ракі. І толькі цяпер адчуваеш, што вада жудасна халодная: усё такі 9 красавіка ранавата для купання. Мелі рацыю нашы продкі: да першых грымотаў ніякіх купанняў.

Выратаваўшы сябе, чалавек пачынае думаць і пра дарагія яму прадметы. Прыярытэты тут розныя: хтосьці хапае красовак, што праплывае побач, хтосьці кепку, іншыя зрываюць з носа акуляры.

А сябры працягваюць з берага руку, рыхтуюць ручнік і цёплы світар. І што прыемна: ні свае, ні чужыя ніяк не каментуюць гэтае здарэнне.

**Аркадзія ЦІШУК.**

**Табло**

■ СПАРТЛАНДЫЯ

**СМАРГОНЬ. Выхаванцы СШ №6, удзельнікі тэлеперадачы "Вас выклікае Спартландыя", выйгралі і другую сваю сустрэчу ў рамках Гродзенскай вобласці. На гэты раз яны былі мацнейшымі за равеснікаў са Слоніма.**

Папярэдне планавалася, што запіс гэтай гульні на канале "Лад" пакажуць 17 красавіка ў 14-40.

Далей смаргонцы паспрачаюцца з прадстаўнікамі іншых абласцей. Аднак тое адбудзецца ў наступным навучальным годзе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**СМАРГОНЬ. Трэцюю частку медалёў рэспубліканскага турніра па лёгкай атлетыцы "Дружба–2005", што прайшоў 8–9 красавіка на гарадскім стадыёне, заваявалі смаргонцы.**

Сярод гаспадароў вылучыліся **Наталля Урублеўская, Эрык Шульжыцкі, Крысціна Уладзіміраваа, Вадзім Ярмак**, якія сталі пераможцамі на дзвюх дыстанцыях. Усе прызёры атрымалі медалі і граматы, а пераможцы яшчэ і прызы.

**Святлана ЦІШКО.**

■ КАЛЯНДАР

## Першы круг "Смаргоні"

**16 красавіка (субота)**
Смаргонь – Ведрыч-97 (Рэчыца)
**24 красавіка (нядзеля)**
Граніт (Мікашэвічы) – Смаргонь
**30 красавіка (субота)**
Смаргонь – Верас (Нясвіж)
**7 мая (субота)**
Смаргонь – Ліда
**15 мая (нядзеля)**
Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) – Смаргонь
**21 мая (субота)**
Смаргонь – Белшына (Бабруйск)
**29 мая (нядзеля)**
Орша – Смаргонь

**Анонс**

**16 красавіка.**
**Смаргонь–Ведрыч-97 (Рэчыца). +2=1-3 8-6. Летась 2:2 дома і 3:0 на выездзе. Пачатак у 17-00.**

**17 красавіка.**
**Смаргонь. 17-00. Матч каманд вышэйшай лігі. Лакаматыў (Мінск) – Зорка-ВА-БДУ (Мінск).**

■ ІНТЭРВ'Ю

# Георгій Кандрацьеў: "Часу хапіла"

**Часу на падрыхтоўку хапала, сцвярджае галоўны трэнер ФК "Смаргонь" Георгій Кандрацьеў у інтэрв'ю "РГ". Але эфектыўнасць перадсезоннай падрыхтоўкі будзе бачная толькі на полі.**

**– Як прайшоў збор у Алушце?**

– Нармальна. Прабылі два тыдні. Да ўмоваў для падрыхтоўкі прэтэнзій няма.

**– Ці вызначыліся Вы з асноўным складам каманды?**

– Ні пра аднаго футбаліста не магу сказаць, што ён абавязкова выйдзе на поле. Ды і змены яшчэ верагодныя. У апошнія дні перад стартам могуць з'явіцца навічкі.

**– Што скажаце ўвогуле пра перадсезонную падрыхтоўку? Ці дастаткова было Вам часу, каб зразумець магчымасці новых падапечных?**

– Усё будзе бачна на футбольным полі. Там і паглядзім на вынік перадсезонкі. Часу хапіла.

**– Якой тактыкі ў гульнях плануеце трымацца?**

– Што дарэмна распавядаць? Толькі гульня пакажа, як у нас усё атрымаецца. Прыходзьце на стадыён у суботу і ў далейшым. Самі ўбачыце.

**– У рэгламенце сёлетняга чэмпіянату гаворыцца, што дзве лепшыя каманды першай лігі выходзяць у вышэйшую, а двое слабейшых "апусцяцца" ўніз. Аднак там сёлета выступяць толькі 14 калектываў. Ці не было размоваў пра тое, каб трэцяя і чацвертая каманды першай лігі таксама маглі прэтэндаваць на выхад у вышэйшую?**

– Не, такога не чуў.

**– Перад "Смаргонню" стаіць задача прабіцца "ўверх". Як думаеце, з кім давядзецца змагацца?**

– Безумоўна, з віцебскім "Лакаматывам" і бабруйскай "Белшынай".

**– І больш ніхто не паспрабуе скласці канкурэнцыю?**

– Так, астатнія, напэўна, пра гэта нават не думаюць.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

